ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 6 (44)

ЧЭРВЕНЬ 1936 г.

МЕНСК—1936

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 6 (44)

ЧЭРВЕНЬ 1936 г.

МЕНСК—1936

## Раённым і ўчастковым інспектарам Наргасучота.

У гэтым бюлетні друкуецца матэрыял па ўсесаюзнаму перапісу насельніцтва, які дае магчымасць кожнаму раённаму і ўчастковаму інспектару ўжо цяпер, нават па далёка не поўнаму пераліку ўсіх работ, уявіць сабе тую аграмаднейшую работу, якую патрэбна выканаць для таго, каб узорна падрыхтавацца і арганізавана сустрэць крытычны дзень усесаюзнага перапісу насельніцтва.

Гэта патрабуе ў першую чаргу дысцыплінаванасці кіруючага склада, у прыватнасці раённых і ўчастковых інспектароў, у выкананні ва ўстаноўленыя тэрміны ўсіх даручэнняў Бюро перапісу насельніцтва Кіраўніцтва.

Між тым, факты з практыкі сучаснага этапу падрыхтоўчых работ сведчаць аб наяўнасці элементаў апартуністычнага благадушша, „чарговасці“ і грубейшага парушэння ўстаноўленых тэрмінаў для асобных работ—некаторыя раённыя і ўчастковыя інспектары (Сіроцінскі), не ўмеючы арганізаваць сваю работу, устанавілі праслаўтую чарговасць: „спачатку скончым чэрвеньскі ўчот, а потым і перапіс насельніцтва“ і г. д. Такая яўна шкодная практыка пагражае зрывам не толькі падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва, але і ўсіх работ, прадугледжаных планам Кіраўніцтва.

Раённыя інспектары—Рэчыцкі (т. Белугін), Стара-Дарожскі (т. Львовіч), атрымаўшы спецыяльнае заданне ад Бюро перапісу па аргплану, не толькі не выканалі гэтага даручэння, але нават не паведамілі аб прычынах невыканання.

Падкрэсліваючы неабходнасць добраякаснага правядзення ўсіх летніх сельскагаспадарчых работ ва ўстаноўленыя тэрміны, папярэджваю супроць апартуністычнай чарговасці і зрыву тэрмінаў падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва і іншых планавых работ.

Для кіраўніцтва перапісам у якасці раённых і ўчастковых упаўнаважаных будуць дапушчаны толькі тыя раённыя і ўчастковыя інспектары, якія забяспечаць своечасовае і добраякаснае выкананне ўсіх падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва.

Напамінаю, што падрыхтоўка і правядзенне перапісу насельніцтва з'яўляецца для ўсіх работнікаў сістэмы Наргасучота экзаменам на здольнасць па-большэвіцку арганізаваць і выканаць даручэнне партыі і ўрада, і гэты экзамен мы абавязаны здаць на „выдатна“.

Нам. начальніка Кіраўніцтва
Наргасучота БССР *С. Шындлер.*

## Вытрымка з праекта оргплана падрыхтоўкі і правядзення ўсесаюзнага перапісу насельніцтва

### Падрыхтоўчыя работы

Падрыхтоўчыя работы складаюцца з наступных асноўных аперацый:

1. Складаюцца наступныя спісы, неабходныя для падрыхтоўкі і правядзення перапісу:

а) населеных месц з падзяленнем іх на гарадскія і сельскія;

б) дваровых (па міліцэйскай нумарацыі) участкаў з паказаннем па кожнаму з іх: установы (арганізацыі, прадпрыемства) альбо прыватнай асобы, якой яны належаць або у веданні якой знаходзяцца, колькасці насельніцтва, якое пражывае на ўчастку, і адраса ўчастка.

Спісы гэтыя складаюцца толькі ў гарадскіх паселішчах шляхам спецыяльнага абходу ўсіх дваровых участкаў. Работа выконваецца пад кіраўніцтвам гарадскіх і раённых інспектароў Наргасучота.

2. Падрыхтоўваецца неабходны для правядзення перапісу картаграфічны матэрыял; падрыхтоўка заключаецца ў праверцы існуючых планаў гарадскіх паселішч і папаўненні іх шляхам нанясення новых кварталаў, а таксама складанні схематычных планаў для тых гарадскіх паселішч, якія не маюць інструментальных планаў; работа выконваецца раёнымі і гарадскімі інспектарамі Наргасучота, а ў буйных гарадах—адпаведнымі бюро перапісу.

3. Праводзіцца разбіўка сельскіх мясцовасцей і гарадскіх паселішч на перапісныя аддзелы, інструктарскія і шчотныя ўчасткі.

4. Праводзіцца мабілізацыя перапіснага персанала і падрыхтоўка яго да перапісу.

5. Для растлумачэння насельніцтву задач, значэння, праграмы і парадку правядзення перапісу праводзіцца шырокая масава-растлумачальная кампанія.

Апрача пералічаных падрыхтоўчых работ оргпланам прадугледжваецца падрыхтоўка наступных спісаў:

а) усіх дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, устаноў і арганізацый;

б) усіх прамысловых, транспартных, будаўнічых і іншых прадпрыемстваў і завядзенняў, незалежна ад іх размеру і прыналежнасці;

в) усіх калгасаў, соўгасаў, машынна-трактарных станцый і г. д.

Пералічаныя вышэй спісы складаюцца як па гарадскіх паселішчах, гэтак і па сельскіх мясцовасцях.

Складанне спісаў ускладаецца на гарадскіх, раённых і ўчастковых інспектароў Наргасучота.

## Устанаўленне перапісных аддзелаў, інструктарскіх і шчотных участкаў

Бюро перапісу буйных гарадоў, гарадскія і раённыя інспектары разбіваюць тэрыторыю сваіх гарадоў, раёнаў на перапісныя аддзелы і інструктарскія ўчасткі з дакладным вызначэннем тэрыторыі перапісных аддзелаў і інструктарскіх участкаў і ўстанаўліваюць па кожнаму перапіснаму аддзелу і па кожнаму інструктарскаму ўчастку колькасць шчотных участкаў.

Разбіўка сельскіх мясцовасцей на перапісныя аддзелы і інструктарскія ўчасткі зацвярджаецца рэспубліканскім КНГУ.

Пры разбіўцы тэрыторыі на перапісныя аддзелы і інструктарскія ўчасткі трэба кіравацца наступнымі прынцыпамі:

а) перапісны аддзел у сельскіх мясцовасцях павінен, як правіла, супадаць з участкам штатнага ўчастковага інспектара Наргасучота, толькі ў асобных выпадках—калі па насельніцтву альбо па тэрыторыі інспектарскі ўчастак надзвычай вялікі, альбо калі перапіс па ўчастку ўскладнён асаблівымі ўмовамі—ён можа быць разбіт на два і больш перапісных аддзелаў.

У гарадскіх паселішчах перапісны аддзел павінен ахапіць ад 10 да 25 тыс. насельніцтва.

б) інструктарскі ўчастак у сельскіх мясцовасцях павінен, як правіла, складацца з аднаго цэлага сельсовета, аднак з насельніцтвам не звыш 2 тыс. чалавек.

Больш буйныя сельсоветы разбіваюцца на два і больш інструктарскіх участкі. Не дазваляецца складаць інструктарскі ўчастак з частак розных сельсоветаў.

У гарадскіх паселішчах інструктарскі ўчастак павінен ахапляць 1000—1200 чал. насельніцтва.

Гарадскія паселішчы з насельніцтвам да 2 тыс. чалавек вылучаюцца кожнае паасобку ў інструктарскі ўчастак.

Гарадскія паселішчы з насельніцтвам ад 2 да 20 тысяч чалавек вылучаюцца кожнае ў самастойны перапісны аддзел з далейшай разбіўкай на інструктарскія ўчасткі.

У гарадах ад 20 тыс. жыхароў і вышэй назначаюцца ўпаўнаважаныя, якія кіруюць работай перапісных аддзелаў, устаноўленых для горада.

Пры гэтым у гарадах з насельніцтвам ад 20 да 50 тыс. жыхароў упаўнавважаму дадаецца памочнік, у гарадах з насельніцтвам звыш 50 тыс. пры ўпаўнаважаных арганізуецца бюро перапісу насельніцтва.

Шчотны ўчастак, згодна пастановы СНК СССР, павінен ахапіць у сярэднім па Саюзу 150 чалавек.

Устанаўленне тэрыторыі шчотных участкаў і адмежаванне кожнага шчотнага ўчастка ад суседняга вытвараецца кантралёрамі-інструктарамі.

У гарадскіх паселішчах кантралёр-інструктар абавязан дакладна паказаць шчотчыку межы яго ўчастка шляхам абходу іх разам са шчотчыкамі.

У сельскіх мясцовасцях інструктар абавязан паказаць шчотчыку межы яго ўчастка на месцы, у тым выпадку калі шчотны ўчастак складаецца не з цэлых населеных пунктаў, а з часткі аднаго паселішча.

(У праекце оргплана таксама прадугледжваецца неабходнасць падрыхтаваць загадзя памяшканні для перапісных аддзелаў і месцазнаходжанне для інструктароў).

## Вытрымка з календара падрыхтоўкі ўсесаюзнага перапісу насельніцтва ў раёнах

### Складанне спісаў і іншых дапаможнікаў для перапісу

| 1. Раённыя карты | Тэрмін |
|---|---|
| а) складанне, капіроўка . . . . . . . . . . . . | 1 ліпеня |
| б) выверка, нанясенне новых пунктаў . . . . . | 15 жніўня |
| **2. Планы гарадоў** | |
| а) першая выверка . . . . . . . . . . . . . . . | 1 жніўня |
| б) канчатковая выверка . . . . . . . . . . . . | 1 лістапада |
| **3. Спісы прадпрыемстваў і ўстаноў** | |
| а) складанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 15 верасня |
| б) выверка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 10 кастрычніка |
| **4. Спісы дваровых участкаў** | 15 кастрычніка |
| **5. Іструктаванне:** | |
| а) раённых-гарадскіх упаўнаважаных . . . . . . | 1—20 лістапада |
| б) участковых упаўнаважаных (кіраўнікоў перапісных аддзелаў): | |
| 1. У сельскіх мясцовасцях . . . . . . . . . | 20 лістапада—1 снежня |
| 2. У гарадах . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 5—10 снежня |
| в) пам. кіраўнікоў перапісных аддзелаў, кантралёраў-інструктароў і шчотчыкаў: | |
| 1. У сельскіх мясцовасцях . . . . . . . . . | 1—15 снежня |
| 2. У гарадах . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 10—15 снежня і 29—31 снежня |

Праект.

# Правілы работы кантралёра-інструктара па правядзенню перапісу насельніцтва ў гарадскіх паселішчах

1. Кантралёр-інструктар атрымлівае ад участковага ўпаўнаважанага:

а) схематычны план інструктарскага ўчастка;

б) спіс дваровых участкаў (па кварталах), якія знаходзяцца на тэрыторыі інструктарскага ўчастка, з адзначэннем па кожнаму домаўладанню прыкладнай колькасці насельніцтва па наяўных даных;

в) спіс дамоў, падлягаючых перапісу ў асобым парадку, калі такія дамы ёсць на тэрыторыі яго ўчастка;

г) лік шчотных участкаў па інструктарскаму ўчастку і спіс шчотчыкаў, мабілізаваных на перапіс насельніцтва;

д) перапісныя лісты і інструкцыю па запаўненню ліста— на ўвесь інструктарскі ўчастак, а таксама астатнія фармуляры па перапісу: дамовыя спісы, зводныя ведамасці і ўказанні па рабоце кантралёра-інструктара і шчотчыка;

е) канцылярскія прылады для шчотчыкаў і папку для матэрыялаў перапісу.

## Разбіўка інструктарскага ўчастка на шчотныя ўчасткі

2. Выходзячы з устаноўленай на інструктарскі ўчастак колькасці шчотных участкаў, інструктар разбівае свой участак на падліковыя ўчасткі, размяркоўвае шчотчыкаў па ўчастках і паведамляе ім № перапіснога аддзела, № інструктарскага і № шчотнага ўчасткаў.

Пры разбіўцы тэрыторыі інструктарскага ўчастка на шчотныя ўчасткі асабліва дакладна павінны быць адмежаваны ад сумежных участкі з няправільнай забудовай, наяўнасцю будынкаў, размешчаных па-за кварталамі, участкі, якія складаюцца з часткі квартала або нават часткі аднаго будынку і да т. п., у якіх таму асабліва магчымы выпадкі пропуску насельніцтва або падвойнага падліку.

Спіс домаўладанняў, уваходзячых у склад шчотнага ўчастка, даецца шчотчыку.

Кантралёр-інструктар абавязан паказаць шчотчыку межы яго ўчастка ў натуры, шляхам абходу іх разам са шчотчыкам.

3. Калі ў складзе інструктарскага ўчастка ёсць гасцініцы, дамы калгасніка, заезджыя двары і да т. п., то перапіс асоб, начуючых з 5 на 6 студзеня ў такога роду памяшканнях, кантралёр-інструктар арганізуе такім чынам, каб гэтыя асобы былі перапісаны раніцой 6 студзеня да таго, як яны пачнуць разыходзіцца.

Самы перапіс асоб, начуючых у гасцініцах, дамах калгасніка, на заезджых дварах і да т. п., кантралёр-інструктар:

а) або даручае правесці шчотчыку таго ўчастка, у склад якога ўваходзіць данае памяшканне, абавязваючы пры гэтым шчотчыка пачаць 6-га студзеня перапіс з гэтага памяшкання і ўпісаць перапісаных асоб у свой дамовы спіс і зводную ведамасць;

б) або праводзіць яго сам, калі колькасць начуючых значная, прыцягваючы да перапісу або запаснога шчотчыка, або шчотчыкаў блізкаразмешчаных участкаў.

У апошнім выпадку такое памяшканне разглядаецца як асобны шчотны ўчастак, і таму складаецца асобны дамовы спіс і асобная зводная ведамасць.

Папярэдняга запаўнення перапісных лістоў на начуючых у гасцініцах, у дамах калгасніка, на заезджых дварах і да т. п., не патрабуецца, але трэба ўмовіцца з адміністрацыяй памяшкання аб атрыманні раніцой 6 студзеня спіса асоб, начаваўшых тут на дзень перапісу.

Калі хто-небудзь з начаваўшых да прыходу кантралёра-інструктара або шчотчыка ўжо вышаў ці паехаў, неабходна запісаць яго ў перапісны ліст і даць аб ім адказы на тыя пытанні перапіснога ліста, звесткі па якіх ёсць у адміністрацыі.

4. У выпадку, калі на тэрыторыі інструктарскага ўчастка ёсць больніцы і іншыя ўстановы, у якіх перапіс праводзіцца сіламі працуючага ў іх персанала, кантралёр-інструктар кожную з такіх устаноў вылучае ў самастойны ўчастак.

Адзін з работнікаў, вылучаемых адміністрацыяй гэтых устаноў на правядзенне перапісу, назначаецца адказным за перапіс; ён аб'ядноўвае работу ўсіх астатніх, непасрэдна падпарадкоўваючыся кантралёру-інструктару, збірае ўвесь матэрыял, складае на ўстанову асобны дамовы спіс і зводную ведамасць і здае матэрыялы кантралёру-інструктару.

## Кантроль работы шчотчыкаў

5. *Кантралёр-інструктар непасрэдна адказвае за паўнату ўліку насельніцтва і якасць запаўнення перапісных лістоў на ўсёй тэрыторыі інструктарскага ўчастка.*

6. Перш чым дапусціць шчотчыка да работы, кантралёр-інструктар павінен асабіста праверыць, ці цвёрда засвоіў шчотчык:

а) парадак правядзення перапісу;

б) інструкцыю да запаўнення пытанняў перапіснога ліста.

Рэкамендуецца пры гэтым правесці пробнае запаўненне перапіснога ліста.

7. Кантроль работы шчотчыка кантралёр-інструктар праводзіць:

а) з 1 па 5 студзеня 1937 года ў часе папярэдняга запаўнення перапісных лістоў;

б) з 7 па 11 студзеня шляхам суцэльнага абходу разам са шчотчыкам усіх памяшканняў, у якіх акажацца пражываючым хоць-бы адзін чалавек.

### Кантроль работы шчотчыкаў у часе папярэдняга запаўнення перапісных лістоў

8. У першыя-ж дні папярэдняга запаўнення кантралёр-інструктар абавязан праверыць работу ўсіх шчотчыкаў.

Для гэтага кантралёр-інструктар абавязвае шчотчыкаў прыносіць яму ва ўстаноўленыя дні і гадзіны запоўненыя імі перапісныя лісты для прагляду.

9. Аб усіх заўважаных памылках кантралёр-інструктар зараз-жа паведамляе шчотчыку і абавязвае яго выправіць няправільныя запісы ва ўсіх запоўненых перапісных лістах.

10. У выпадку яўна нядобрасумленнага выканання шчотчыкам сваіх абавязкаў кантралёр інструктар знімае яго з работы, паведамляе аб гэтым участковаму ўпаўнаважанаму і перадае работу на ўчастку запасному шчотчыку або размяркоўвае яе паміж астатнімі шчотчыкамі. Такую-ж замену кантралёр-інструктар робіць і ў выпадку хваробы шчотчыка.

11. У дзень перапісу 6 студзеня кантралёр-інструктар павінен праверыць, ці ўсе шчотчыкі прыступілі да перапісу.

12. Зараз-жа пасля сканчэння перапісу, але не пазней раніцы 7 студзеня, кантралёр-інструктар абавязан прыняць ад шчотчыка ўсе перапісныя лісты разам са складзенымі дамовымі спісамі і зводнымі ведамасцямі. У часе прыёму матэрыяла кантралёр-інструктар паведамляе кожнаму шчотчыку, якога чысла ён будзе абхадзіць яго ўчастак.

13. Не пазней вечара 7 студзеня кантралёр-інструктар пасылае ўчастковаму ўпаўнаважанаму спецыяльны рапарт па ўстаноўленай форме.

### Кантрольны абход шчотных участкаў

14. Кантралёр-інструктар па кожнаму шчотнаму ўчастку робіць суцэльны абход усіх будынкаў і іншых памяшканняў, у якіх мог аказацца пражываючым у дзень перапісу хоць-бы адзін чалавек, і шляхам *непасрэднага апытання ў кожным памяшканні правярае, ці сапраўды ні адзін чалавек не прапушчан шчотчыкам і ці няма ў перапісных лістах асоб, лішні раз запісаных.*

Кантралёр-інструктар павінен дакладна праверыць не толькі, ці не было ў часе перапісу пропускаў некаторых асоб у перапісаных шчотчыкам памяшканнях, але і ці не

было пропуску цэлых будынкаў, у якіх пражывала ў дзень перапісу насельніцтва.

Кожная асоба, прапушчаная шчотчыкам, запісваецца ў перапісны ліст і аб ёй запаўняюцца ўсе пытанні; кожная асоба, лішні раз запісаная, выкрэсліваецца з ліста.

У выпадку пропуску цэлага будынку кантралёр-інструктар перапісвае пражываючае ў ім насельніцтва па становішчу на дзень перапісу (6 студзеня) і адначасова складае на яго дамовы спіс.

15. Кантралёр-інструктар, робячы кантрольны абход, павінен цвёрда памятаць, што як падлік насельніцтва, так і запіс усіх даных у перапісныя лісты праводзіцца па становішчу на дзень перапісу (6 студзеня), але зусім не па становішчу на дзень кантрольнага абходу.

16. Кантрольны абход кантралёр-інструктар праводзіць у прысутнасці таго шчотчыка, работа якога правяраецца.

Кантрольны абход кватэр праводзіцца ў парадку іх запісу ў дамовы спіс.

17. Адначасова з праверкай дакладнасці ўліку шчотчыкам насельніцтва кантралёр-інструктар праглядае запісы па пытаннях перапісного ліста і выпраўляе выяўленыя памылкі.

18. Усе выпраўленні кантралёр-інструктар уносіць пры кантрольным абходзе ў перапісныя лісты асабіста, не даручаючы гэтага шчотчыку. Рэзультат праверкі кантралёр-інструктар запісвае ў адпаведныя графы дамовага спісу і зводнай ведамасці па шчотнаму ўчастку.

19. Усе матэрыялы па перапісу кантралёр-інструктар дае ўчастковаму ўпаўнаважанаму не пазней 12 студзеня.

## Правілы работы кантралёра-інструктара па правядзенню перапісу насельніцтва ў сельскіх мясцовасцях

1. Кантралёр - інструктар атрымлівае ад участковага ўпаўнаважанага:

а) схематычную карту інструктарскага ўчастка з дакладным адмежаваннем межаў участка ад сумежных інструктарскіх участкаў;

б) спіс населеных пунктаў, знаходзячыхся на тэрыторыі інструктарскага ўчастка, з паказаннем па кожнаму населенаму пункту прыкладнай колькасці насельніцтва па наяўных звестках;

в) спіс дамоў, падлягаючых перапісу ў асобым парадку, калі такія дамы ёсць на тэрыторыі яго ўчастка;

г) колькасць шчотных участкаў па інструктарскаму ўчастку і спіс шчотчыкаў, мабілізаваных на перапіс насельніцтва;

д) перапісныя лісты і інструкцыю па запаўненню ліста на ўвесь інструктарскі ўчастак, а таксама астатнія фармуляры па перапісу: паселішчныя спісы, зводныя ведамасці і ўказанні па рабоце кантралёра-інструктара і шчотчыка;

е) канцылярскія прылады для шчотчыкаў і папку для матэрыялаў перапісу.

## Разбіўка інструктарскага ўчастка на шчотныя ўчасткі

2. Выходзячы з устаноўленай на інструктарскі ўчастак колькасці шчотных участкаў, інструктар разбівае свой участак на шчотчыя ўчасткі, размяркоўвае шчотчыкаў па ўчастках і паведамляе ім № перапіснога аддзела, № інструктарскага ўчастка і № шчотнага ўчастка.

Пры разбіўцы тэрыторыі інструктарскага ўчастка на шчотныя ўчасткі трэба асабліва сачыць, каб усе асобныя ізалявана размешчаныя жыллёвыя будынкі (старожкі, будкі, млыны, школы і да т. п.) былі абавязкова ўключаны ў шчотныя ўчасткі.

Пералік населеных пунктаў, уваходзячых у склад шчотнага ўчастка, паведамляецца шчотчыку.

У тых выпадках, калі населены пункт падзяляецца на два або больш шчотных участкі, кантралёр-інструктар абходзіць са шчотчыкам межы яго ўчастка на месцы і дакладна адмяжоўвае кожны ўчастак ад сумежных шчотных участкаў.

Пры адводзе шчотчыкам такіх участкаў кантралёр-інструктар паведамляе кожнаму з іх, хто перапісвае на суседніх сумежных участках.

3. Калі ў складзе інструктарскага ўчастка ёсць дамы калгасніка, заезджыя двары і да т. п., то перапіс асоб, начуючых з 5 на 6 студзеня ў такога роду памяшканнях, кантралёр-інструктар арганізуе такім чынам, каб гэтыя асобы былі перапісаны раніцой 6 студзеня да таго, як яны пачнуць разыходзіцца.

Самы перапіс асоб, начуючых у дамах калгасніка, на заезджых дварах і да т. п., кантралёр-інструктар:

а) або даручае правесці шчотчыку таго ўчастка, у склад якога ўваходзіць данае памяшканне, абавязваючы пры гэтым шчотчыка пачаць 6 студзеня перапіс з гэтаго памяшкання і запісаць перапісныя лісты ў свой паселішчны спіс і зводную ведамасць;

б) або праводзіць яго сам, калі колькасць асоб начуючых значная, прыцягваючы да перапісу або запаснога шчотчыка, або шчотчыкаў блізкаразмешчаных участкаў.

У апошнім выпадку такое памяшканне разглядаецца як асобны шчотны ўчастак, і таму складаецца асобны паселішчны спіс і асобная зводная ведамасць.

Папярэдняга запаўнення перапісных лістоў на начуючых

у дамах калгасніка, на заезджых дварах і да т. п. не патрабуецца, але трэба ўмовіцца з адміністрацыяй памяшкання аб атрыманні раніцой 6 студзеня спіса асоб, начаваўшых тут на дзень перапісу.

Калі хто-небудзь з начаваўшых да прыходу кантралёра-інструктара або шчотычка ўжо пайшоў або паехаў, неабходна запісаць яго ў перапісны ліст і даць аб ім адказы на тыя пытанні перапіснога ліста, звесткі па якіх ёсць у адміністрацыі.

4. У выпадку, калі на тэрыторыі інструктарскага ўчастка ёсць больніцы і іншыя ўстановы, у якіх перапіс праводзіцца сіламі працуючага ў іх персанала, трэба рабіць так:

а) вялікія больніцы, санаторыі, дамы адпачынку і да т. п. кантралёр-інструктар вылучае ў самастойныя шчотныя ўчасткі; адзін з работнікаў, вылучаемых адміністрацыяй гэтых устаноў на правядзенне перапісу, назначаецца адказным за перапіс; ён аб'ядноўвае работу ўсіх астатніх, непасрэдна падпарадкоўваючыся кантралёру-інструктару, збірае ўвесь матэрыял, складае на ўстанову асобны паселішчны спіс і зводную ведамасць і здае матэрыял кантралёру-інструктару;

б) у невялікіх установах складзеныя персаналам перапісныя лісты кантралёр-інструктар даручае прыняць і праверыць 6 студзеня шчотчыку таго ўчастка, у склад якога ўстанова ўваходзіць. У даным выпадку асобнага паселішчнага спіса і зводнай ведамасці не складаецца, а шчотчык заносіць перапісныя лісты ў свой паселішчны спіс і зводную ведамасць.

## Кантроль работы шчотчыкаў

5. *Кантралёр-інструктар непасрэдна адказвае за паўнату ўліку насельніцтва і якасць запоўненых перапісных лістоў на ўсёй тэрыторыі інструктарскага ўчастка.*

6. Перш чым дапусціць шчотчыка да работы кантралёр-інструктар павінен асабіста праверыць, ці цвёрда засвоіў шчотчык:

а) парадак правядзення перапісу;

б) інструкцыю да запаўнення пытанняў перапіснога ліста. Рэкамендуецца пры гэтым правесці пробныя запаўненні перапіснога ліста.

7. Кантроль работы шчотчыка кантралёр-інструктар праводзіць:

а) з 1 па 5 студзеня 1937 г. у часе папярэдняга запаўнення перапісных лістоў;

б) з 7 па 11 студзеня шляхам суцэльнага абходу разам са шчотчыкам і ўпаўнаважаным сельсовета ўсіх двароў і памяшканняў, у якіх акажацца пражываючым хоць-бы адзін чалавек.

## Кантроль работы шчотчыкаў у часе папярэдняга запаўнення перапісных лістоў

8. У першыя-ж дні папярэдняга запаўнення перапісных лістоў кантралёр-інструктар абавязан праверыць работу ўсіх шчотчыкаў.

Для гэтага кантралёр-інструктар абавязвае шчотчыкаў, працуючых або пражываючых у месцы прабывання кантралёра-інструктара, прыносіць яму ва ўстаноўленыя дні і гадзіны запоўненыя імі перапісныя лісты для прагляду.

Работу астатніх шчотчыкаў кантралёр-інструктар правярае шляхам наведвання іх участкаў.

9. Аб усіх заўважаных памылках кантралёр-інструктар зараз-жа паведамляе шчотчыку і абавязвае яго выправіць няправільныя запісы ва ўсіх запоўненых перапісных лістах.

10. У выпадку яўна нядобрасумленнага выканання шчотчыкам сваіх абявязкаў кантралёр-інструктар знімае яго з работы, паведамляе аб гэтым участковаму ўпаўнаважанаму і перадае работу на ўчастку запасному шчотчыку або размяркоўвае яе паміж астатнімі шчотчыкамі. Такую замену кантралёр-інструктар робіць і ў выпадку хваробы шчотчыка.

11. У дзень перапісу 6 студзеня кантралёр-інструктар павінен праверыць, ці ўсе шчотчыкі прыступілі да перапісу.

12. Зараз-жа пасля сканчэння перапісу, але не пазней раніцы 7 студзеня, кантралёр-інструктар абавязан прыняць ад шчотчыкаў усе перапісныя лісты разам са складзенымі паселішчнымі спісамі і зводнымі ведамасцямі. Пры прыёме матэрыялу кантралёр-інструктар паведамляе кожнаму шчотчыку, якога чысла ён будзе абходзіць яго ўчастак.

13. Не пазней вечара 7 студзеня кантралёр-інструктар пасылае ўчастковаму ўпаўнаважанаму спецыяльны рапарт па ўстаноўленай форме.

## Кантрольны абход шчотных участкаў.

14. Кантралёр-інструктар у кожным населеным пункце робіць суцэльны абход усіх будынкаў і іншых памяшканняў, у якіх мог аказацца пражываючым у дзень перапісу хоць-бы адзін чалавек і шляхам *непасрэднага апытання ў кожным памяшканні правярае, ці сапраўды ні адзін чалавек не прапушчан шчотчыкам і ці няма ў перапісных лістах асоб, лішні раз запісаных.*

Кантралёр-інструктар павінен уважліва праверыць не толькі, ці не было пропускаў паасобных асоб у перапісаных шчотчыкам памяшканнях, але і ці не было пропуску *цэлых будынкаў, у якіх пражывала ў дзень перапісу насельніцтва, або нават паасобных населеных пунктаў* (старожак, чыгуначных будак і да т. п.).

Кожная асоба, прапушчаная шчотчыкам, запісваецца ў перапісны ліст і аб ёй запаўняюцца ўсе пытанні; кожная асоба, лішні раз запісаная, выкрэсліваецца з ліста.

У выпадку пропуску цэлага будынку кантралёр-інструктар перапісвае пражываючае ў ім насельніцтва па становішчу на дзень перапісу (6 студзеня) і заносіць яго ў паселішчны спіс.

Пры пропуску населенага пункта кантралёр-інструктар перапісвае пражываючае ў ім насельніцтва і адначасова складае на яго паселішчны спіс.

15. Кантралёр-інструктар, праводзячы кантрольны абход, павінен цвёрда памятаць, што як улік насельніцтва, так і запіс усіх даных у перапісныя лісты робіцца па становішчу на дзень перапісу (6 студзеня), але не па становішчу на дзень кантрольнага абходу.

16. Кантрольны абход кантралёр-інструктар абавязкова робіць разам з упаўнаважаным сельсовета ў прысутнасці таго шчотчыка, работа якога правяраецца.

Кантрольны абход двароў робіцца ў парадку іх запісу ў паселішчны спіс.

17. Адначасова з праверкай дакладнасці ўліку шчотчыкам насельніцтва кантралёр-інструктар праглядае запісы па пытаннях перапіснога ліста і выпраўляе заўважаныя памылкі.

18. Усе выпраўленні кантралёр-інструктар уносіць пры кантрольным абходзе ў перапісныя лісты сам, не даручаючы гэтага шчотчыку. Рэзультаты праверкі кантралёр-інструктар запісвае ў адпаведныя графы паселішчнага спіса і кантрольнага ліста.

19. Усе матэрыялы па перапісу кантралёр-інструктар здае ўчастковаму ўпаўнаважанаму не пазней 12 студзеня.

## Правілы работы шчотчыка па правядзенню перапісу насельніцтва ў гарадскіх паселішчах

1. Шчотчык адказвае за перапіс насельніцтва адведзенага яму ўчастка.

Участак шчотчыка можа складацца з некалькіх будынкаў, з аднаго будынка або з часткі будынка.

Спіс домаўладанняў, якія ўваходзяць у ўчастак, з указаннем адраса і № будаўнічага квартала, шчотчык атрымлівае ад кантралёра-інструктара. Кантралёр-інструктар адначасова паведамляе шчотчыку № перапіснога аддзела, № інструктарскага і № шчотнага ўчастка.

2. Кантралёр-інструктар абавязан паказаць шчотчыку дакладныя межы яго ўчастка шляхам абходу іх разам са шчотчыкам.

Асабліва старанна павінны быць адмежаваны ад сумежных участкаў участкі з няправільнай забудовай, наяўнасцю будынкаў, зямлянак і да т. п. па-за кварталамі, участкі, якія складаюцца з часткі квартала або нават з часткі аднаго будынку і да т. п., у якіх таму асабліва магчымы выпадкі пропуску насельніцтва або падвойнага ўліку.

3. Калі ў шчотчыка ўзнікла сумненне, ці ўваходзіць той або іншы будынак у яго ўчастак, ён зварочваецца за растлумачэннем да кантралёра-інструктара.

4. Калі на ўчастку, адведзеным шчотчыку, ёсць дамы, якія падлягаюць перапісу ў асобым парадку і даным шчотчыкам не перапісваюцца, то спіс гэтых дамоў шчотчык атрымлівае перад перапісам ад кантралёра-інструктара. Насельніцтва ўсіх астатніх дамоў яго ўчастка павінна быць перапісана.

5. Перапіс праводзіцца шчотчыкам у наступным парадку:

а) за 1 па 5 студзеня 1937 года шчотчык робіць папярэдняе запаўненне перапісных лістоў;

б) 6 студзеня з 8 гадзін раніцы да 12 гадзін ночы шчотчык праводзіць самы перапіс, г. зн. падлік насельніцтва, праверку і выпраўленне папярэдне запоўненых перапісных лістоў, а таксама запаўненне перапісных лістоў на тых асоб, на якіх яны чаму-небудзь не былі складзены.

### Папярэдняе запаўненне перапісных лістоў

6. Папярэдняе запаўненне перапісных лістоў робіцца шчотчыкам шляхам суцэльнага абходу па парадку ўсіх знаходзячыхся на яго ўчастку будынкаў і жыллёвых памяшканняў, у якіх акажацца пражываючым хоць-бы адзін чалавек.

Папярэдняе запаўненне шчотчык пачынае з 1 студзеня і заканчвае поўнасцю не пазней 5 студзеня 1937 года.

7. У кожнай кватэры ў перапісныя лісты падлягаюць запісу ўсе асобы, як пражываючыя стала, так і часова, як прапісаныя па кватэры, так і непрапісаныя. Не трэба запісваць толькі тых з адсутнічаючых, адносна якіх вядома, што да дню перапісу (6 студзеня) яны не вернуцца.

8. Не запісваюцца ў перапісныя лісты толькі асобы, прад'яўляючыя спецыяльныя пасведчанні ваеннага камандавання або органаў НКУС аб тым, што яны падлягаюць перапісу у асобым парадку.

Члены сям'і гэтых асоб перапісваюцца ў агульным парадку.

9. Калі ў кватэры жыве некалькі сем'яў, у перапісны ліст запісваюцца спачатку члены адной сям'і, потым другой і т. д.

10. На кожным лісце шчотчык запісвае адрас перапісваемай кватэры, № будаўнічага квартала, перапіснога аддзела і шчотнага ўчастка і запаўняе аб кожным запісаным у перапісны ліст адказы на ўсе пытанні ў адпаведнасці з указаннямі інструкцыі.

11. Запоўненыя перапісныя лісты шчотчык прад'яўляе кантралёру-інструктару для прагляду ва ўстаноўленыя кантралёрам-інструктарам дні і гадзіны.

## Перапіс насельніцтва

12. 6 студзеня шчотчык зноў абыходзіць усе дамы свайго ўчастка і ўсе памяшканні, у якіх пры перапісу можа аказацца пражываючым хоць-бы адзін чалавек.

13. У кожным памяшканні шчотчык павінен:

а) выясніць адносна кожнай запісанай у перапісны ліст асобы, ці начавала яна ў гэтым памяшканні ў ноч з 5 на 6 студзеня;

б) запытаць, ці не начаваў хто-небудзь яшчэ апрача запісаных у перапісны ліст.

Калі акажуцца асобы, запісаныя ў перапісны ліст, але паехаўшыя або памершыя да 12 гадзін ночы з 5 на 6 студзеня, шчотчык выкрэслівае з перапіснога ліста як гэтых асоб, так і ўсе запісы аб іх у лісце.

Не выкрэсліваюцца толькі тыя з адсутнічаючых, якія паказаны ў п. 2-б інструкцыі да запаўнення перапіснога ліста, г. зн. работнікі начной змены і дзяжурыўшыя ноччу па пастах або ва ўстановах, а таксама чыгуначнікі (машыністы, качагары, кандуктары, праваднікі і да т. п.), быўшыя ў ноч з 5 на 6 студзеня пры выкананні службовых абавязкаў, хоць-бы па-за населеным пунктам, у якім яны жывуць, і асобы, выехаўшыя з вечара 5 студзеня на рынак або ў ізвоз; гэтыя асобы падлягаюць пакіданню ў пера-

пісных лістах незалежна ад таго, начавалі яны дома ці не начавалі.

Не выкрэсліваюцца таксама асобы, якія правялі ноч з 5 на 6 студзеня ў другім памяшканні, але ў тым-жа населеным месцы, напрыклад, быўшыя ў гасцях.

З другога боку, калі акажуцца асобы, не запісаныя ў перапісны ліст, але прыехаўшыя або народжаныя да 12 гадзін ночы з 5 на 6 студзеня, шчотчык запісвае такіх асоб у перапісны ліст і запаўняе на іх усе пытанні. Шчотчык запісвае гэтых асоб у перапісны ліст і ў тым выпадку, калі апытваемыя заяўляюць, што яны былі перапісаны ў другім месцы.

14. Як і пры папярэднім запаўненні, не запісваюцца асобы, прад'яўляючыя спецыяльныя пасведчанні аб тым, што яны падлягаюць перапісу ў асобым парадку (гл. п. 8).

15. У першай кватэры шчотчык ставіць на лістах № 1 і запісвае яго ў дамовы спіс. У наступнай кватэры гэтага-ж дома на лістах ставіцца № 2 і т. д.

## Здача матэрыялаў

16. Зараз-жа пасля сканчэння перапісу па свайму ўчастку, але не пазней раніцы 7 студзеня, шчотчык усе перапісныя лісты разам са складзенымі ім дамовымі спісамі і зводнай ведамасцю здае кантралёру-інструктару.

Пры здачы матэрыяла шчотчык дазнаецца ад кантралёра-інструктара, якога чысла ён будзе рабіць кантрольны абход яго ўчастка.

## Правілы работы шчотчыка па правядзенню перапісу насельніцтва ў сельскіх мясцовасцях

1. Шчотчык адказвае за перапіс насельніцтва адведзенага яму ўчастка.

Участак шчотчыка можа складацца з аднаго або некалькіх населеных пунктаў (вёсак, хутароў і т. д.), або з часткі населенага пункта. У першым выпадку шчотчык атрымлівае ад кантралёра-інструктара спіс усіх населеных пунктаў, уваходзячых у яго ўчастак. У другім—кантралёр-інструктар паказвае шчотчыку на месцы межы яго ўчастка.

Пры гэтым кантралёр-інструктар паведамляе шчотчыку, хто працуе на суседніх шчотных участках.

Кантралёр-інструктар паведамляе шчотчыку № перапіснога аддзела, № інструктарскага ўчастка і № яго шчотнага ўчастка.

2. Перш, чым прыступіць да запаўнення перапісных лістоў, шчотчык складае спіс усіх двароў, уваходзячых у яго ўчастак.

Калі пры гэтым у шчотчыка ўзнікла сумненне, ці ўваходзіць той або іншы двор у яго ўчастак, ён звяртаецца за растлумачэннем да кантралёра-інструктара або ўмаўляецца з суседнімі шчотчыкамі, хто будзе перапісваць гэты двор.

3. Калі на ўчастку, адведзеным шчотчыку, ёсць дамы, якія падлягаюць перапісу ў асобым парадку і даным шчотчыкам не перапісваюцца, то спіс гэтых дамоў шчотчык атрымлівае перад перапісам ад кантралёра-інструктара. Насельніцтва ўсіх астатніх дамоў яго ўчастка павінна быць перапісана.

4. Перапіс праводзіцца шчотчыкам у наступным парадку:

а) з 1 па 5 студзеня 1937 г. шчотчык праводзіць папярэдняе запаўненне перапісных лістоў;

б) 6 студзеня, з 8 гадзін раніцы да 12 гадзін ночы, шчотчык праводзіць самы перапіс, г. зн. падлік насельніцтва, праверку і выпраўленне папярэдне запоўненых перапісных лістоў, а таксама запаўненне перапісных лістоў на тых асоб, на якіх яны чаму-небудзь не былі складзены.

### Папярэдняе запаўненне перапісных лістоў

5. Папярэдняе запаўненне перапісных лістоў праводзіцца шчотчыкам шляхам суцэльнага абходу па парадку ўсіх знаходзячыхся на яго ўчастку двароў і жыллёвых памяшканняў, у якіх акажацца пражываючым хоць-бы адзін чалавек.

Папярэдняе запаўненне шчотчыкам пачынаецца з 1 студзеня і заканчваецца поўнасцю не пазней 5 студзеня 1937 г.

6. У кожным доме ў перапісныя лісты падлягаюць запісу ўсе асобы, як пражываючыя стала, так і часова; не трэба запісваць толькі тых з адсутнічаючых, адносна якіх вядома, што да дня перапісу (6 студзеня) яны не вернуцца.

7. Не запісваюцца ў перапісныя лісты толькі асобы, якія прад'яўляюць спецыяльныя пасведчанні ваеннага камандавання або органаў НКУС аб тым, што яны падлягаюць перапісу ў асобым парадку.

Члены сям'і гэтых асоб перапісваюцца.

8. Калі ў доме жыве некалькі сем'яў, у перапісны ліст запісваюцца спачатку члены адной сям'і, потым другой і т. д.

9. На кожным лісце шчотчык запісвае адрас перапісваемага дома, перапіснога аддзела і шчотнага ўчастка і запаўняе аб кожным запісаным у перапісны ліст адказы на ўсе пытанні ў адпаведнасці з указаннямі інструкцыі.

## Перапіс насельніцтва

10. 6 студзеня шчотчык зноў абходзіць усе дамы свайго ўчастка і ўсе памяшканні, у якіх пры перапісе можа аказацца пражываючым хоць-бы адзін чалавек.

11. У кожным памяшканні шчотчык павінен:

а) выясніць адносна кожнай запісанай у перапісны ліст асобы, ці начавала яна ў даным памяшканні ў ноч з 5 на 6 студзеня;

б) запытаць, ці не начаваў хто яшчэ апрача запісаных у перапісны ліст.

Калі акажуцца асобы, запісаныя ў перапісны ліст, але выехаўшыя або памершыя да 12 гадзін ночы з 5 на 6 студзеня, шчотчык выкрэслівае з перапіснога ліста як гэтых асоб, так і ўсе запісы аб іх у лісце.

Не выкрэсліваюцца толькі тыя з адсутнічаючых, якія паказаны ў п. 2-б інструкцыі да запаўнення перапіснога ліста, г. зн. работнікі начной змены і дзяжурыўшыя на пастах або ва ўстановах, а таксама чыгуначнікі (машыністы, качагары, кандуктары, праваднікі і да т. п.), быўшыя ў ноч з 5 на 6 студзеня пры выкананні службовых абавязкаў, хоцьбы па-за населеным пунктам, у якім яны жывуць, і асобы, выехаўшыя з вечара 5 студзеня на рынак або ў ізвоз. Гэтыя асобы падлягаюць пакіданню ў перапісных лістах незалежна ад таго, начавалі яны дома ці не начавалі. Не выкрэсліваюцца таксама асобы, правёўшыя ноч з 5 на 6 студзеня ў другім памяшканні, але ў тым-жа населеным месцы (напрыклад, быўшыя ў гасцях).

З другога боку, калі акажуцца асобы, не запісаныя ў перапісны ліст, але прыехаўшыя або народжаныя да 12 гадзін ночы з 5 на 6 студзеня, шчотчык запісвае такіх асоб у перапісны ліст і запаўняе на іх адказы на ўсе пытанні.

Шчотчык запісвае гэтых асоб у перапісны ліст і ў тым выпадку, калі апытваемыя заяўляюць, што яны былі перапісаны ў другім месцы.

12. Як і пры папярэднім запаўненні, не запісваюцца асобы, прад'яўляючыя спецыяльныя пасведчанні аб тым, што яны падлягаюць перапісу ў асобым парадку (гл. вышэй, п. 7).

13. У першым доме шчотчык ставіць на лістах № 1 і запісвае яго ў паселішчны спіс. У наступным доме на лістах ставіцца № 2 і т. д.

## Здача матэрыялаў

14. Зараз-жа пасля сканчэння перапісу па свайму участку, але не пазней раніцы 7 студзеня, шчотчык усе перапісаныя лісты разам са складзенымі ім паселішчнымі спісамі і зводнай ведамасцю здае кантралёру-інструктару.

Пры здачы матэрыяла шчотчык дазнаецца ад кантралёра-інструктара, якога чысла ён будзе рабіць кантрольны абход яго ўчастка.

СНК БССР
9/VI 1936 г.
№ 510.

## Старшыням райвыканкомаў, горсоветаў

У звязку з надыходзячым усесаюзным перапісам насельніцтва трэба неадкладна забяспечыць складанне схематычных карт асобна для раёнаў і гарадскіх паселішч.

Па звестках, маючыхся ў СНК, гэта падрыхтоўчая работа да перапісу насельніцтва знаходзіцца ў яўна нездавальняючым становішчы.

СНК БССР прапануе тэрмінова праверыць складанне, выкапіроўку схематычных карт і аказаць максімальнае садзейнічанне інспектару Наргасучота ў падрыхтоўцы картаграфічнага матэрыялу па перапісу насельніцтва.

Нам. старшыні СНК БССР *Любовіч.*

## Старшыні горсовета г. Менска т. Жуковічу

Па паведамленню Кіраўніцтва Наргасучота БССР, Вы да гэтага часу не забяспечылі ўстанаўлення і зацверджання на прэзідыуме Горсовета мяжы горада Менска, а таксама падрыхтоўкі плана горада з учотам усіх змен па гораду за апошнія гады.

У звязку з тым, што адсутнасць гэтых матэрыялаў тармозіць падрыхтоўку да перапісу насельніцтва па г. Менску, абавязваю вас персанальна забяспечыць устанаўленне гарадской мяжы і падрыхтоўку адпаведнага плана горада да 25/VI 1936 г.

Нам. старшыні Совета Народных Камісараў БССР
*Любовіч.*

## Старшыні горсовета г. Віцебска

Па паведамленню Кіраўніцтва Наргасучота БССР Вы да гэтага часу не забяспечылі ўстанаўлення і зацверджання на прэзідыуме Горсовета мяжы горада Віцебска.

У звязку з тым, што адсутнасць гэтых матэрыялаў—устанаўленне гарадской мяжы—тармозіць падрыхтоўку да перапісу насельніцтва па г. Віцебску, абавязваю Вас персанальна забяспечыць устанаўленне гарадской мяжы да 25/VI—36 г.

Нам. старшыні Совета Народных Камісараў БССР *Любовіч*

## Загад № 278 па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*Ад 13 чэрвеня 1936 года*

§ 1.

Для арганізацыі падрыхтоўчых работ да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва і правядзення самога перапісу ў акругах прызначаю ўпаўнаважаным па:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Мазырскай | акруге— | нач. Акруговага | КНГУ | т. Флеера |
| Слуцкай | „ — | „ | „ | т. Кулікава |
| Лепельскай | „ — | „ | „ | т. Фінаева |
| Полацкай | „ — | „ | „ | т. Мізарава |

§ 2.

Акруговым упаўнаважаным па перапісу насельніцтва неадкладна прыступіць да праверкі становішча падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва ў раёнах, уваходзячых у іх акругу, і прыняць усе меры па забеспячэнню выканання ўсіх даручэнняў Бюро перапісу насельніцтва.

Нач. Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

## Усім інспектарам НГУ

Праверкай спісаў населеных пунктаў, праведзенай нам. нач. Бюро перапісу насельніцтва т. Кубанам па 2 сельсоветах Дубровенскага раёна, устаноўлена:

Па Цылевіцкаму сельсовету прапушчаны:

1) пасёлак Пабеда, 2) хутар Аконянка і 3) хутары Заселле (дзве сядзібы).

Няправільна паказаны тыпы населеных пунктаў: запісаны вёскі Вялікае Бахава, Малое Бахава, Цылевічы і Чубакова, а на самай справе кожнае з гэтых паселішч з'яўляецца хутарам.

Па Сваташыцкаму сельсовету запісана: пасёлкі Верамееўшчына і ўвага „пасёлкавая сістэма у 9 пасёлках", а патрэбна: 1) пасёлак Новая Верамееўшчына, 2) Верамееўскія хутары (4 сядзібы), 3) пасёлак Чырвоны Герой, 4) пасёлак Ветка, 5) пасёлак Старая Верамееўшчына, 6) пасёлак Ленінскі, 7) пасёлак Малінаўскі, 8) пасёлак Дубкі, 9) пасёлак Чырвоная Стар і 10) пасёлак Чырвонае Зарэчча.

Такое становішча па Дубровенскаму раёну стварылася таму, што раённы інспектар т. Жукаў праверкай населеных пунктаў не кіраваў і работы не правяраў.

Факты, устаноўленыя па Дубровенскаму раёну, сведчаць аб безадказнасці, праяўленай кіруючым работнікам н/сістэмы на адной з важнейшых работ па падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва.

Катэгарычна папярэджваючы т. Жукава супроць штампавання работы ўчастковых інспектароў, абавязваю ўсіх раённых і ўчастковых інспектароў праверку спісаў вытвараць выключна ў натуры.

Нам. начальніка Кіраўніцтва Наргасучота БССР

*Шындлер*

